**№50 (1863)**
Субота, 20 сакавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +7...+9, дождж, уначы — 0...+2, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +7...+9, дождж, уначы — +4...+6, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +6...+8, дождж, уначы — +2...+4, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — -1...+1, дождж, уначы — -1...+1, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +9...+11, уначы — +4...+6, на працягу сутак — дождж; у Магілёве ўдзень — +4...+6, дождж, уначы — +1...+3, без ападкаў.

*www.meteo.by*



## Падпіска на «Народную волю» прадоўжана па 25 сакавіка

*Такое рашэнне прынялі "Белпошта" і "Белсаюздрук". Дзякуй!*
*Шаноўныя сябры! Выкарыстайце апошні шанц — аформіце падпіску, калі яшчэ не зрабілі, на II квартал 2004 года.*
*"Народная воля" — адзіная ў Беларусі штодзённая незалежная рэспубліканская газета.*
*Мы — за праўду і свабоду слова! І гэтым усё сказана.*

**Будзем разам!**

**ПУЛЬС**

### Пра ідэалы БНР і адраджэнне Беларусі

21 сакавіка Кансерватыўна-Хрысціянская партыя — БНФ праводзіць у Мінску трэцюю соймавую канферэнцыю на тэму "Ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі і адраджэнне Беларусі".

Прагучаць даклады на гістарычную і актуальную тэматыку. Канферэнцыя адбудзецца ў малой зале Палаца культуры "Сукно" (вул.Матусевіча, 20).

Прыняць удзел запрашаюцца ўсе жадаючыя.

### На мітынг!

Брэсцкі гарвыканкам дазволіў правядзенне 21 сакавіка мітынгу супраць ліквідацыі бясплатнай аховы здароўя і росту платы за камунальныя паслугі.

Як паведаміў БелаПАН Леанід Майструк, кіраўнік Брэсцкага гарадскога камітэта Партыі камуністаў Беларускай (ПКБ), якая арганізуе акцыю, мітынг пройдзе на брэсцкім стадыёне "Будаўнік" з 11 да 13 гадзін. Апрача камуністаў, узяць удзел у ім запрошаны прадстаўнікі іншых партый.

"Гэты мітынг павінен стаць своеасаблівай рэпетыцыяй мітынгу, які прадстаўнікі кааліцыі **"5+"** плануюць правесці ў Брэсце 27 сакавіка пад лозунгам "Беларускаму народу — дастойнае жыццё", — сказаў Леанід Майструк.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

### На танцы!

21 сакавіка Міністэрства спорту і турызму і Беларуская федэрацыя танцавальнага спорту праводзяць другі тур чэмпіянату Беларусі па спартыўных танцах.

Спаборніцтвы пройдуць у Мінскім спартыўным комплексе "Спартак" па вуліцы Берута, 11. Пачатак першага аддзялення — у 10 гадзін, другога — у 17.30. Уваходны білет на першае аддзяленне будзе каштаваць 6 тысяч рублёў — для дарослых і 3 тысячы — для дзяцей; на другое — 8 і 4 тысячы рублёў адпаведна.

Трэці, заключны, тур чэмпіянату пройдзе ў маі.

**Лавінія АРЭШКА.**

### Што за сварка без гранаты...

Вечарам 18 сакавіка ў Барысаве 36-гадовы мясцовы жыхар — на вуліцы падчас сваркі са сваёй былой сяброўкай — выкарыстаў па прамым прызначэнні, відаць, у якасці аргумента гранату РГД-5, узарваўшы яе.

Вынік сваркі аказаўся трагічным для мужчыны. Па дарозе ў бальніцу ён памёр, а жанчына моцна не пацярпела. Ёй была аказана дапамога без шпіталізацыі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

### Як бомбы ляцяць ледзяныя глыбы...

Адна такая звалілася на галаву 65-гадовага пенсіянера Н.Фісона. Здарылася гэта некалькі дзён таму, бліжэй да палудня, на вуліцы Сядых у Мінску.

Снежна-ледзяная маса, якая адарвалася з даху пяціпавярховага дома №16, трапіла мужчыну ў галаву. З чэрапна-мазгавой траўмай цяжкай ступені яго шпіталізавалі ў 5-ю клінічную бальніцу.

У пацярпеўшага ёсць усе падставы звяртацца ў суд з іскам аб аплаце ўрону з боку мясцовага ЖЭСа.

**Віталь ЧЫЖОЎСКІ.**

### «Эрык XIV» — у Купалаўскім

Як паведаміла БелаПАН загадчыца літаратурнай часткай тэатра **Марына Бартніцкая**, *"надыход вясны артысты адзначылі пачаткам штодзённых рэпетыцый самай, напэўна, грандыёзнай пастаноўкі тэатра — "Эрык XIV"* паводле п'есы Аўгуста Стрындберга, прэм'ера якой запланавана на 9 чэрвеня гэтага года. Маштабнасць пастаноўкі *"захапляе дух: спецыяльна для афармлення сцэны інжынерамі праектуецца басейн, які будзе запаўняцца вадой падчас дзеяння. У спектаклі бярэ ўдзел большая палова трупы тэатра, ролю Эрыка XIV выконваюць адразу два акцёры —* **Аляксандр Малчанаў** і **Алег Гарбуз"**.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

### Не перагружайцеся...

З 22 сакавіка па 1 мая 2004 года на шэрагу беларускіх аўтадарог уводзяцца абмежаванні руху транспартных сродкаў з восевымі нагрузкамі, што перавышаюць устаноўленыя значэнні.

На асноўнай сетцы дарог абмежаванні нагрузкі будуць вагацца ў межах 6-9 тон на адзіночную вось. Разам з тым, на дарогах М-1/Е-30 Брэст — Мінск — мяжа Расіі, М-2 Мінск — Нацыянальны аэрапорт "Мінск" і М-9 Кальцавая аўтадарога вакол Мінска абмежаванні ўводзіцца не будуць.

**Аляксей АРЭШКА.**

**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

*Стивен ПАЙФЕР:*

## «Санкции будут направлены против белорусской власти, а не против народа...»

*Глава Администрации президента Беларуси Урал Латыпов по неизвестным причинам отказался встретиться с прибывшими в Беларусь заместителем помощника Госсекретаря США по вопросам Европы и Евразии* ***Стивеном Пайфером*** *и делегацией европейских политиков, в которую вошли директор по вопросам Восточной Европы, Совета Европы и ОБСЕ Министерства иностранных дел Ирландии* ***Барбара Джонс,*** *ее заместитель* ***Питер Макайвор,*** *советник по вопросам внешней политики секретариата Совета Европы* ***Карл Харцел*** *и генеральный директор по вопросам внешней политики Европейской комиссии* ***Герхард Лохан.***

Из официальных лиц представители США и Евросоюза встретились лишь с министром иностранных дел Беларуси **Сергеем Мартыновым.**

По словам **Барбары Джонс**, в ближайшие несколько месяцев Евросоюз намеревается очень тщательно отслеживать ситуацию в Беларуси.

*"Основная цель нашего визита заключается в том, чтобы найти опорную точку, после которой наши взаимоотношения с Беларусью изменятся,* — сказала она. — *У Европейского Союза нет желания исключать Беларусь из общеевропейской семьи..."*.

*"Однако в последнее время ситуация в Беларуси значительно ухудшилась"*, — заметил **Стивен Пайфер**. По его словам, это связано в основном с давлением на независимые средства массовой информации, учебные заведения и неправительственные организации.

Как отметили члены совместной делегации США и Евросоюза, если в ближайшее время ситуация в Беларуси не изменится, то не исключено, что в отношении Беларуси будут применены определенные санкции.

*"Санкции будут направлены против белорусской власти, а не против народа"*, — уточнил Пайфер.

Сегодня Стивен Пайфер и посол США в Беларуси **Джордж Крол** направятся в Москву.

*"Полагаем, что Россия также должна быть озабочена тем, что происходит в Беларуси"*, — сказал Пайфер.

**Марина КОКТЫШ.**



*Заместитель помощника Государственного секретаря США по делам Европы и Евразии Стивен Пайфер (справа) возлагает цветы к могиле Василя Быкова.*

**Фото ByMedia.net**

## Заявление для прессы совместной делегации Европейского Союза и США

19 марта 2004 г. состоялся совместный визит представителей Европейского Союза и США в Беларусь. Это беспрецедентный визит, подтверждающий ту важность, которую Европейский Союз и Соединенные Штаты придают своим отношениям с Беларусью, и их желание видеть Беларусь покончившей с нынешней самоизоляцией и занимающей подобающее ей место в свободной и демократической Европе без разделительных линий. Совместная делегация Европейского Союза и США провела встречи с белорусскими властями и представителями широкого круга политических групп и партий, гражданского общества и средств массовой информации.

Выражая глубокую озабоченность ухудшением ситуации с демократией в стране, представители Европейского Союза и США подчеркнули свою готовность к конструктивному диалогу с белорусскими властями для упрочения отношений и продвижения общих ценностей.

Делегация Евросоюза и США с сожалением отметила, что налицо отсутствие прогресса со стороны Беларуси в выполнении ею своих обязательств перед ОБСЕ и, следовательно, в улучшении отношений с Евросоюзом и США. Недопустимое ограничение свободы прессы, запрет активно работающих неправительственных правозащитных организаций, ограничение права на свободу собраний и демонстраций и недопустимое давление на независимые образовательные учреждения и академические свободы значительно ухудшили состояние дел в области личных и общественных демократических свобод в Беларуси.

Европейский Союз и Соединенные Штаты ранее отмечали, что улучшение отношений будет зависеть от готовности белорусских властей двигаться вперед в деле обеспечения общих демократических ценностей, соблюдения прав человека и свободы слова. В частности, была подчеркнута важность свободного и справедливого процесса подготовки к парламентским выборам в октябре 2004 года. Члены совместной делегации подтвердили готовность Евросоюза и США безотлагательно приступить к серьезному обсуждению путей достижения в Беларуси этих целей.

1 мая 2004 года Евросоюз и Беларусь станут непосредственными соседями. За последнее время белорусскими властями были предприняты шаги, которые обострили политические расхождения и различия в системах ценностей этой страны с другими странами Европы, несмотря на большую географическую приближенность Беларуси к Евросоюзу. Новые отношения между Евросоюзом и Беларусью делают как никогда острой необходимость соответствия политического курса и практических действий этой страны принципам Совета Европы и недавно расширившегося Евросоюза. Если Беларусь осуществит политические реформы, обе стороны смогут использовать тот потенциал, который базируется на добрососедстве, основанном на общих демократических ценностях. США полностью поддерживают подход Европейского Союза.

*Минск.*
*19 марта 2004 г.*

**БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ**

## Вось дык папрацавалі!

Інфармацыйнае агенцтва БелаПАН са спасылкай на Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што 44,3 працэнта беларускіх прадпрыемстваў і арганізацый, што ўлічваюцца ў бягучым парадку, спрацавалі ў студзені са стратамі. Сума гэтых страт склала 134,2 млрд. рублёў. Між тым па выніках 2003 года доля стратных прадпрыемстваў і арганізацый склала 27,2 працэнта, у студзені 2003 года — 48,6.

У сельскай гаспадарцы стратна спрацавалі 53 працэнты арганізацый (уключаючы арганізацыі абслугоўвання), на транспарце (уключаючы трубаправодны) — 44,9, у гандлі і грамадскім харчаванні — 44,8, у прамысловасці — 44,1, у жыллёва-камунальнай гаспадарцы — 40,9, у будаўніцтве — 37,6, у сферы сувязі — 18.

Удзельная вага стратных арганізацый у Брэсцкай вобласці склала 45,3 працэнта (без уліку сельгасарганізацый — 47,5), Віцебскай — 51,8 (45), Гомельскай — 50,5 (46,6), Гродзенскай — 40,7 (43,3), Мінскай — 51,4 (50,5), Магілёўскай — 51,2 (49,7). У Мінску ўдзельная вага стратных арганізацый склала 24,2 працэнта.

Так і хочацца сказаць: вось дык папрацавалі ў пачатку года. А планы ж намецілі на сёлетні год вялізныя. Напомнім іх: павялічыць вытворчасць прадукцыі аж на 10 працэнтаў. А ўспомнім, як у апошнія гады начальства і афіцыйныя прапагандысты нахвальваюць гэтак званую беларускую мадэль развіцця. Выступаючы на нарадзе пастаяннадзеючага семінара кіруючых работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў у сакавіку 2002 года, Аляксандр Лукашэнка пераконваў, што час пацвердзіў правільнасць прыярытэтаў, закладзеных у беларускай мадэлі развіцця, яе жыццёвую сілу і эфектыўнасць.

Цяпер мы бачым, што паказаў пачатак года. А які перапалох выклікала нядаўняе кароткае адключэнне расійскага газу! Дык што ж гэта за мадэль эканамічнага развіцця краіны, пры якой трасе ўсю эканоміку змяншэнне ціску толькі ў адной расійскай трубе — у газавай. Што гэта за мадэль развіцця, пры якой навагодняя раскачка так псуе ўсе паказчыкі і губіць старт года.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

*Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ:*

### «Загналі ўсё ў лядовыя палацы...»

Прадстаўнікі 20 краін свету бяруць удзел у XXXIV міжнародным турніры па вольнай барацьбе на прызы Аляксандра Мядзведзя, які праходзіць у Мінскім лядовым Палацы спорту.

На прэс-канферэнцыі намеснік міністра спорту і турызму Беларусі **Галіна Забур'янава** назвала турнір *"знамянальным спартыўным мерапрыемствам на прызы легенды сусветнага спорту". "Трохразовы алімпійскі чэмпіён не мае патрэбы ў рэкламе. 34-ы турнір — гэта пацвярджэнне яго заслуг і ўзроўню развіцця беларускага спорту"*, — заявіла Забур'янава.

Сам А.Мядзведзь, які з'яўляецца прэзідэнтам Беларускай федэрацыі барацьбы і віцэ-прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта, адзначыў, што 20 працэнтаў удзельнікаў турніру маюць ліцэнзіі на паездку ў Афіны, што сведчыць пра высокі ўзровень спаборніцтваў. У той жа час А.Мядзведзь паскардзіўся на адсутнасць *"універсальнага спартыўнага збудавання"*, дзе можна было б праводзіць такія мерапрыемствы. *"Загналі ўсё ў лядовыя палацы"*, — канстатаваў гаспадар турніру.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

**ВІНШУЕМ!**

### Парыжская перамога Віктара Аслюка

***На Міжнародным фестывалі "Рэальнае кіно" ў Парыжы дакументальная стужка "Кола" беларускага рэжысёра Віктара Аслюка атрымала прыз "За лепшы караткаметражны фільм".***

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі Віктар Аслюк, "Рэальнае кіно" — адзін з найстарэйшых і прэстыжных фестываляў дакументальнага кіно ў Еўропе, на які з усяго свету адбіраецца толькі 25 карцін.

Дзелячыся ўражаннямі аб форуме, рэжысёр зазначыў, што праходзіць мерапрыемства ў Цэнтры Жоржа Пампіду, дзе збіраецца *"вельмі своеасаблівая іранічная публіка, якая ўсё бачыла і якую цяжка здзівіць, не падобная на студэнцкую аўдыторыю іншых фестываляў"*. Таксама ён паведаміў, што фільм "Кола" атрымліваў прызы на ўсіх чатырох фестывалях, у якіх браў удзел, але ўзнагарода, атрыманая ў Парыжы, стала для яго нечаканасцю.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Продано!

### 31 марта в малом зале Дворца Республики состоится первый белорусский аукцион. С молотка пойдет современное искусство.

В качестве ведущего приглашен известный шоумен, ведущий "Поля чудес" и вице-президент московского аукционного дома **Леонид Якубович.**

Сколько заплатили Якубовичу за приезд, организаторы белорусского аукциона умалчивают. Но, похоже, сумма немалая. Впрочем, директор антикварно-аукционного дома "Paragis" **Андрей Березин** заявил, что Леонид Якубович получит лишь определенный процент от проданных работ.

*"Если ни одна работа не будет продана, значит, Якубович ничего не получит"*, — загадочно улыбнулся Березин.

***Для справки:*** антикварно-аукционный дом "Paragis" был создан в марте этого года и является вторым на территории СНГ. Главная цель "Paragis" — содействие развитию цивилизованного рынка произведений искусства в Беларуси, создание условий для продвижения национального искусства.

Кстати, *Paragis* — это настоящая фамилия гендиректора белорусского антикварно-аукционного дома. Березин — его журналистский псевдоним. **Андрей Парагис** родился в Риге, закончил факультет журналистики МГУ, три курса юрфака БГУ. Некоторое время работал журналистом и фотографом в России. Пытался заниматься шоу-бизнесом, создав агентство *"Звезды XXI века"*, о грандиозных проектах которого мало кто слышал...

Работы на аукцион отбирала специальная комиссия, в которую вошли член Белорусского союза художников **Леонид Хоботов,** директор художественной галереи Белорусского университета культуры **Федор Ястреб,** директор муниципальной галереи современного искусства в Сан-Висане (Италия) **Энрико Форнаро**.

31 марта на продажу будет выставлено около 300 произведений искусства (графика, живопись, скульптура, фотография).

По словам арт-директора "Paragis" Л.Хоботова, художники в основном сами проявляли инициативу поучаствовать в аукционе.

*"Во Дворце Республики будет представлено мало работ народных и заслуженных художников,* — говорит Хоботов. — *Нам не хотелось бы бравировать именами и регалиями. Да и автор в данном случае не главное..."*

Из известных мастеров на аукционе появятся произведения **Александра Исачева** и **Бориса Заборова.** Некоторые раритетные работы представят банки, которым в свое время они были отданы под залог, но впоследствии не выкуплены.

Хоботов затрудняется даже предположить, какая из работ может вызвать наибольший интерес публики.

*"Это сложно предугадать"*, — говорит он.

Стартовые цены на все работы будет называть Леонид Якубович. Но они, как сказали организаторы, будут небольшие — от 50 до 100 долларов. Художник, если его работа уйдет с молотка, получит лишь 8 процентов.

Как известно, в Беларуси не так уж много тех, кто может позволить себе приобрести картину известного мастера или какую-то антикварную вещицу на аукционе. Однако организаторы торгов уверены, что, например, белорусские галереи будут заинтересованы в приобретении некоторых представленных работ. *"Ведь будет представлено не только современное искусство, но и работы тех, кого уже нет в живых"*, — сказал Хоботов.

*"До 1917 года в Беларуси было 11.000 коллекционеров. Сколько их сегодня — никто не знает"*, — заметил **Федор Ястреб**.

Специальной аккредитации на аукцион для журналистов не предусмотрено.

*"Такого нет ни в одной стране мира,* — заявил Березин. — *Билеты продаются в кассах. Они стоят 25 тысяч рублей. Приходите"*...

В этом году антикварно-аукционный дом "Paragis" намеревается провести еще три аукциона. Первый никто из белорусских бизнесменов и просто состоятельных людей финансово не поддержал. Все указанные спонсоры — иностранные.



**Марина КОКТЫШ.**

## «Не будем платить...»

### Если не улучшится обслуживание, то жильцы домов, находящихся в ведении ЖЭСа №3 Партизанского района города Минска, перестанут перечислять квартплату

Они собрались позавчера для обсуждения наболевщего вопроса — о катастрофическом повышении цен на коммунальные платежи. Организовала это собрание Людмила Грязнова — правозащитник, живущая в этом районе. Тема разговора подсказана самой жизнью — раз в жировках указаны такие графы, как капитальный ремонт, техническое обслуживание и т.д., раз эти услуги оплачиваются жильцами, но никак не исполняются, то вполне праведный гнев населения и надо что-то делать.

Жильцы возмущались техническим состоянием домов, в которых за 33 года ни разу не проводился капитальный ремонт. *"Простого текущего ремонта от работников ЖЭСа добиться невозможно,* — говорили жильцы. — *Элементарная замена стекол в подъездах — дело чрезвычайной сложности"*. На эти претензии главный инженер ЖЭСа ответил, что, мол, не надо самим жильцам бить стекла. Это его замечание вызвало шквал возмущений: мол, а состояние рам-то какое — они же все прогнили, гвозди выпадают, а следом за ними и стекла!

Ругали ЖЭС и за состояние крыш и парапетов (вот-вот металлические конструкции свалятся людям на голову), подъездов, дворовых территорий и т.д. Жаловались на обслуживание сантехников: почему сантехнику, пришедшему заменить прокладку в кране, следует еще и дополнительно платить, а то ведь он ничего не сделает?!

Вопросов обсуждалось много. Но главным был вопрос, волнующий всех: если обслуживание на таком низком уровне, то куда уходят деньги, которые платят жильцы?

И вот одна из жильцов произвела очень интересные расчеты. *"Я живу в доме на ул. Захарова уже 33 года. И как-то мне стало интересно: а сколько же мы заплатили государству за так называемое техническое обслуживание и капитальный ремонт? С нашей квартиры за каждый год получается сумма примерно в 60 долларов. Посчитаем дальше. В доме — 116 квартир. Получается, что в год наш дом за вышеназванные услуги заплатил 7 тысяч долларов! А за 33 года мы заплатили государству 231 тысячу долларов! Это же стоимость приличного особняка, который, вероятно, кто-то и построил на наши деньги"*.

В ходе собрания было обсуждено много вариантов на тему *"как быть?"*. И жильцы предложили такой вариант: *"Мы посмотрим-посмотрим на все это безобразие и скажем: не нужно нам такое обслуживание, и мы не будем больше платить! Расторгнем договор с ЖЭСом, создадим свои какие-то товарищества и будем сами обслуживать свои дома"*.

Людмила Грязнова составила обращение к министру экономики Н.П.Зайченко, под которым подписалось более 900 жильцов. Дай-то Бог, чтобы за этим обращением последовала реакция властей в пользу жильцов.

**Наталья ГУСЕВА.**



*— Нас не устраивает рост цен на коммунальные услуги и плохое обслуживание домов.*

**Фото ByMedia.net**

